на граніцы Манчжурыі будуць справакаваны на якое-нябудзь выступленьне проці Манчжурыскага ўраду. Але ў кожным разе — ў выпадку такога канфлікту паміж Радамі і Манчжурыяй Японія рашуча і выразна умяшаецца дый з аружжам у руках стане на старану Манчжурыі.

—·—

21 красавіка—на адкрыцьці 9 кангрэсу Праф. Саюзаў Молатаў сказаў прамову, у якой заявіў работнікам, што на Далёкім Усходзе рыхтуецца яўна напад на іх дзяржаву. „Няма ніякага сумліву, казаў Молатаў, што японскі генэральны штаб знаходзіцца ў сувязі з генэральнымі штабамі ведамых эўрапэйскіх дзяржаваў... Рады вядуць мірную палітыку, але іх цярплівасьць можа быць вычарпана. Вайна проці Радаў цяпер—зусім ня тое, чым была 12 гадоў назад: армія іх азброена да зубоў, дык патрапіць абараніць сваю дзяржаву".

Здаецца, з абодвух бакоў сказана ўсе досьць выразна.

# На конфэрэнцыі у справе разбраеньня.

На конфэрэнцыі ў справе разбраеньня ідзе ўсьцяж барацьба паміж „францускай" і „проці францускай" групамі дзяржаў. Да „францускай групы" належаць, апроч Францыі, яе саюзьніцы: дзяржавы Малае Антанты, Польшча, дый яшчэ некаторыя драбнейшыя дзяржавы, якія карыстаюцца францускім крэдытам; да групы „проці францускай" (у справах разбраеньня) належаць блізу усе іншыя дзяржавы, з Англіяй і Амэрыкай на чале.

Як толькі II крас. узнавіліся нарады конфэрэнцыі, адразу амэрыканскі дэлегат Джыбсон—у яўным паразуменьні з дэлегацыяй Англіі—высунуў далёка йдучыя дамаганьні ў справе разбраеньня. Ён рашуча трэбаваў поўнага скасаваньня цяжкай артылерыі і танкаў, як прыладу наступленьня. Прапазіцыя Амэрыкі яўна біла ў Францыю, якая мае цяпер наймацнейшую цяжкую артылерыю ў сьвеце. Дэлегата Амэрыкі рашуча падтрымалі дэлегаты Англіі, Італіі, Нямеччыны, ня кажучы ўжо аб швайцарскім і інш. Востра выступіў проці амэрыканскай прапазіцыі францускі прэм. Тард'э, ядавіта закідаючы Амэрыцы, што яна залішне цікавіцца абмежаньнем сухапутных збраеньняў Эўропы, але значна менш заінтэрэсавана разбраеньнем на моры. Калі касаваць рухомую цяжкую артылерыю, дык ужо касаваць наагул, як на сушы так і на моры. Гэтая сутычка яшчэ больш завастрыла — без таго добра папсаваныя адносіны паміж Францыяй і Амэрыкай. Рашучы націск Джыбсона на конфэрэнцыю, як пішуць газэты, быў выкліканы спэцыяльным загадам прэзыдэнта Хувэра, які, маючы ў віду блізкія ўжо прэзыдэнцкія выбары, хоча здабыць для сябе гэты важны казыр — пасьпеху амэрыканскага пачыну у справе разбраеньня.

Такім чынам на гэтай конфэрэнцыі, як і на ўсіх папярэдніх, барацьба ідзе паміж дзьвюма тэзамі: францускай і проці-францускай. Француская тэса трэбуе сьпярша загарантаваньня бясьпечнасьці, а пасьля суадказнага разбраеньня для кожнай дзяржавы ў сваей меры; тэза проці-француская—наадварот—трэбуе сьпярша абмежаньня збраеньняў, якое ўжо само сабой дасьць большую меру бясьпечнасьці ўсім дзяржавам. Францускую тэзу падтрымліваюць тыя дзяржавы, якім новы „вэрсальскі лад" Эўропы даў вялікія карысьці дый даў час і срэдствы награмадзіць значныя сілы і збраненьні—дзеля аховы гэтага ладу; наадварот—проці-францускую тэзу бароняць тыя дзяржавы, якія значна пацярпелі ад новага ладу ў Эўропе, як пераможаныя ў вайне, а далей так сама й тыя дзяржавы, якія церпяць ад нячуванай перавагі Францыі ў Эўропе дый хочуць адбудаваць у Эўропе так званую „палітычную раўнавагу". Гэтым і тлумачыцца супольны фронт Амэрыкі, Англіі, Італіі, Нямеччыны і інш. пакрыўджаных у выніку вайны дзяржаў —проці Францыі.

У выніку гарачай барацьбы — генэральная камісія конфэрэнцыі апрацавала рэзалюцыю, якая кажа, што разбраеньне павінна адбывацца этапамі, прымаючы пад увагу геаграфічнае і палітычнае палажэньне паасобных дзяржаў, ці так зван. „крытэрыі бясьпечнасьці". Рэзалюцыя, як бачым, кампрамісная, неяк лучачая абедзьве супярэчныя тэзы. Характэрна, што дэлегат ССРР Літвінаў дамагаўся бязумоўнага разбраеньня, без усялякіх „крэтырыяў бясьпечнасьці", аб якіх дэлегацыя ССРР нічога ня ведала, калі яе запрашалі на конфэрэнцыю.

Літвінага не падтрымаў навет нямецкі дэлегат, ані турэцкі. Але ня мелі часу навет дэлегацыі нацешыцца гэтым першым пасьпехам у цяжкай працы конфэрэнцыі, як новы ўдар „француская тэза" атрымала з боку Англіі. Англійскі дэлегат Саймон запрапанаваў забараніць ужываньне дый утрыманьне цалком ведамых—найбольш руйнуючых—родаў збраеньняў. Прапазіцыя Англіі падобная да амэрыканскай, але Францыі цяжэй адкінуць яе, як прапазіцыю Джыбсона. Прапазіцыя Саймона насамперш цалком касуе францускі плян стварыць для Лігі Нацыяў монаполію на гэтыя найцяжэйшыя роды збраеньняў, бо-ж якраз іх Англія й прапануе скасаваць цалком.

Неспадзеваная прапазіцыя Саймона выклікала перапалох у францускай дэлегацыі, а пасьля і ў Парыжу. Англійскую прапазыцыю падтрымаў Джыбсон, так востра выступіўшы проці Францыі, што дэлегат апошняй Павал Бонкур па тэлефону выклікаў прэм'ера Тард'э з Парыжу, каб той ратаваў палажэньне. З свайго боку англійская дэлегацыя выклікала Мак-Дональда, які, ня гледзячы на хваробу, аэраплянам прыехаў у Парыж, а адтуль разам з Тард'э, прыбыў у Жэнэву. „Цяпер толькі й пачалася запраўдная барацьба паміж Англіяй і Францыяй", пішуць радасна ў Бэрліне. Падарожа ў адным вагоне Тард'э з Мак-Дональдам з Парыжу у Жэнэву кажа хіба-ж аб тым, што „барацьба" гэта ня будзе такой ужо сьмяротнай...

Трэба адзначыць яшчэ, што ў крытычны мамэнт, пасьля прапазіцыі Саймона, калі француская дэлегацыя (ў адсутнасьці Тард'э) амаль ня допусьціла да правалу усяго пляну Тард'э (аб монаполіі Лігі Нацыяў на цяжкую артылерыю і інш. роды збраеньняў), адратавалі „францускія пазіцыі" 14 дзяржаў „францускай групы", — з саюзьніцамі Францыі на чале. Ад імя іх выступіў румынскі дэлегат Тытулеско, які запрапанаваў спорны плян якаснага разбраеньня передаць на разгляд спэцыяльнай камісіі. Але — на наступным ужо паседжаньні генэр. камісіі выявіліся вынікі супольнай падарожы Тард'э з Мак-Дональдам: прапазіцыя Саймона, перароблена так, што гадзіла ды лучыла пажаданьні і Англіі і Францыі: якаснае абмежаньне збраеньняў мае быць праведзена—або шляхом забароны ўжываньня ці ўтрыманьня найцяжэйшых родаў збраеньняў, (англійскі плян), або іх перадачы ў монаполію Лігі нацыяў (франц. плян). Такім чынам спор між Англіяй і Францыяй адкладаецца на далей.

—·—

Трэба адзначыць яшчэ характэрную пазіцыю Амэрыкі, якую адкрыта бароняць у Жэнэве правадыры яе дэлегацыі. Амэрыка трэбуе, каб „Вэрсальскага Эўропа" цалком датасавала да сябе ўсё тыя нормы разбраеньня, якія яе тварцы-пераможцы накінулі ў Вэрсальскім Трактаце Нямеччыне дый іншым пераможаным дзяржавам. Як ведама, такую-ж пазіцыю займаюць і нямецкія дзяржаўнікі, дадаючы толькі, што, калі гэтае справядлівае дый выразна прадбачанае ў самым Вэрсальскім Трактаце дамаганьне Нямеччыны будзе адкінена, тады Нямеччына высуне адваротнае дамаганьне: роўнасьці ўжо не ў разбраеньні, але — ў збраеньнях, якое й будзе праводзіць сама, ня гледзячы на Трактат, пагвалчаны ўжо ня толькі Нямеччынай, але й пераможцамі...

**Бацькі!**
**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!**

## Нябывалая катастрофа у Паўдзённай Амэрыцы.

Нябывалая катастрофа разразілася ў Паўдзённай Амэрыцы, ахапіўшы руйнуючай стыхіяй аж тры яе дзяржавы: вялікую—Аргэнтыну ды меншыя — Уругвай і Чылі. Як ведама, па ўсяму заходняму узьбярэжжу Паўдзённай Амэрыкі цягнецца найдаўжэйшы ў сьвеце ланцуг вялізарных гор — Кордыльераў ці Андаў, багатых вульканамі. Восем з іх,не выяўляўшых ужо даўно асаблівай дзейнасьці, раптам ажывіліся — пачалі выкідаць вялізарныя масы лявы, гарачага попялу, ядавітых газаў, агню, каменьняў, пяску і д. т.п. Вось як расказывае аб гэтым жудасным здарэньні адзін з наглядчыкаў. Выбух распачаўся неспадзевана. Сьпярша стала страшэнна горача. Неба над галавамі людзей зрабілася чорным, пасьля чырвоным. Людзі пачалі задыхацца ды вар'яцець ад душачых газаў і гарачыні. Пасьля пачаў падаць дождж гарачага попелу ды пяску. Людзі пачалі замыкацца ў дамы, ў падвалы, але адратавацца ад пяску, які залязаў у рот, нос, вушы, не маглі. Тады з мясцовасьцяў, ахопленых гэтым жахам, пачалі людзі масава ўцякаць, хто толькі мог, на аўтамабілях, ды на чым хто здолеў. Але ехаць ня была куды: на сотні кілямэтраў ад месца выбуху віселі над галавамі людзей чырвона-чорныя моря дыму, з якіх сыпаліся раскаленыя жвір, попел, каменьні.

Гэтыя тучы даходзілі блізу да самай сталіцы Аргэнтыны, Буэнос-Айрэса, які ляжыць на другім канцы краю — усходнім, на Атлянтыцкім акіяне. З сталіцы, ды з вялікшых местаў у краіны найбольш пацярпеўшай Аргэнтыны, як Мэндоза і інш. былі высланы цягнікі з процігазавымі маскамі, балёнамі з кіслародам. Але цягнікі, як і аўтамабілі, варачаліся назад з поўдарогі: людзі не маглі зьнесьці грызучага дыму, колы не маглі ехаць па глыбака занесеных быццам чорным сьнегам рэльсам...

Дакладных лічбаў ахвяраў пакуль-што няма. Але павінна іх быць тысячы. Тысячамі гінула жывёла—з-за недахопу вады: уся вада ў калоджежах высахла, вада ў рэках і вазёрах затручана нейкімі вулканічнымі квасамі, набыла горкага смаку. Але тое-ж самае павінна губіць масава й людзей...

Матэр'яльныя страты павінны быць вялізарныя: згінулі неагляднгя прасторы ўсялякага родуніваў, лугоў ды пашаў з жывёлай у гэтых пераважна земляробскіх краінах. Але, што яшчэ горш, засыпаны пяском ды попелам на тысячы квадратных кілямэтраў багатыя чарназёмныя грунты гэтых надзвычай пладародных краінаў. Як сьцвердзілі ўжо дасьледчыкі, трэба будзе нязьлічанай працы ды вялізарнага накладу капіталу, каб ачысьціць ды „адтруціць" затручаную вульканічнымі кіслотамі зямлю спэцыяльнымі хімічнымі способамі. Месты ды мясцовасьці, так страшэнна пабітыя неспадзяванай бядой, належаць да найбагацейшых, найхарашэйшых у сьвеце. Мясцовасьць навокал места Мендозы, якое ляжыць на чыгунцы, лучачай сталіцу Аргэнтыны са сталіцай Чылі, звалася жытніцай ды вінаграднікам Аргэнтыны. Цяпер там—пустыня, усеяная трупамі людзей ды жывёлы — без зялёнага лістка на сотні кілямэтраў... Запраўды ж — біблейская катастрофа...

Апошнія тэлеграмы данесьлі, што гэтыя тучы з дажджом вульканічнага попялў даляцелі аж да Сан-Паулo і Рыо-дэ-Жанэйро ў Бразіліі, ці за пару тысяч кілямэтраў ад месца выбуху вульканаў ў Чылі...

## Як перасылаць грошы за газэту.

Гэтым паведамляем нашых падпішчыкаў, што яны могуць перасылаць належныя нам грошы за газэту гэтакім способам: 1) купіць на пошце блянк для пераказу на рахунак П. К. О., які каштуе толькі 5 гр., 2) запоўніць яго, як належа, упісаўшы адрас беларускае кнігарні Ул. Манкевіча (Księgarnia Białoruska Wł. Mankiewicza, Wilno, Ostrobramska I) і нумар конта 61991, 3) на адвароце часткі блянку „dla adresata" напісаць: „За газэту"— і 4) бясплатна здаць разам з блянкам пасыланую суму на пошце.

# Жыцьцё Польшчы.

### Паварот марш. Пілсудскага.

21 красавіка марш. Пілсудскі вярнуўся ў Варшаву з сваей курацыйнай падарожы ў Эгіпэт. Па дарозе дамоў марш. Пілсудскі затрымаўся на некалькі дзен у Румыніі, дзе веў з яе міністрамі важныя палітычныя гутаркі.

### Другая конфэрэнцыя былых прэм'ераў.

25 красавіка распачалася другая конфэрэнцыя былых прэм'ераў Польшчы, (зразумела—толькі ББ) пры ўчасьці п. Прэзыдэнта Рэспублікі ім марш. Пілсудскага.

Як пішуць газэты, нарада гэтая мае разважыць способы палепшыць фінансава-гаспадарчы стан дый міжнародна-палітычнае палажэньне Польшчы. Некаторыя газэты пускаюць чуткі аб рыхтаваным быццам рашучым зруху урадавага курсу ў напрамку паразуменьня з левай (работніцкай і сялянскай) опозыцыяй. Націск (?) ў гэтым напрамку быццам робіцца з боку Францыі, дзе, як мы ведаем, можа дайсьці да ўлады лявіца. У Польшчы хіба-ж добра разумеюць, якое значэньне мае такое паразуменьне ўрадавай Польшчы—праз польскую лявіцу — з францускай лявіцай навет для ўратаваньня польска-францускага саюзу, проці каторага так рашуча выступілі ўсе францускія радыкалы. Але-ж — пасьля ўсяго, што здарылася за апошнія гады, паразуменьне ББ з опозыцыяй, пэўне-ж, ня будзе лёгкім.

### Чарговы з'езд ваяводаў у Варшаве.

У гмаху мін. ўнутран. спраў распачаўся 25 красавіка з'езд ваяводаў з усяе Польшчы, якія нараджаюцца — пад старшынства мін. Перацкага—пераважна ў справах гаспадарчых, асабліва—дапамогі безработным.

---

# Беларусы ў Чэхаславаччыне.

### Беларуская Рада ў Празе.

25 сакавіка адбыўся пад старшынствам А. Калошы агульны гадавы сход сяброў Беларускае Рады ў Празе. У заключэньне быў перавыбраны прэзыдыюм, які складаецца з гэткіх асоб: старшыня — Захарка, намесьнік старшыні—інж. Русак, скарбнік—А. Калоша і сэкрэтар—М. Вітушка. У рэвізыйную камісію ўвайшлі: інж. Астапкевіч, інж. Журэнкоў і М. Вяршынін.

У сувязі з штогоднім зьмяншэньнем беларускае колёніі ў Чэхаславакіі з тамтэйшых беларускіх арганізацыяў выбывае ўсьцяж усё больш і больш іх старых сяброў. Спроба беларусаў дабіцца ад чэхаславацкага ўраду хоць некалькіх стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў, якія стала папаўнялі-бы тамтэйшую беларускую колёнію і ўтрымлівалі-бы жывую лучнасьць між беларускім і чэскім грамадзянствам, на жаль, не ўдалася, і праз пару гадоў астануцца ў Празе толькі старыя беларускія палітычныя эмігранты — дзеячы БНР.

---

# З усяго сьвету.

### Перамога гітляраўцаў у Нямеччына.

**Як і можна было спадзевацца, выбары ў Соймы паасобных дзяржаў Саюзнай Нямецкай Рэспублікі, дый спэцыяльна найважнейшыя выбары ў Сойм Прусіі, далі вялізарную перамогу гітляраўцам.**

**Цэнтра-левая — на чале з соцыял-дэмакратыяй—коаліцыя, трымаўшая каля 14 гадоў уладу ў Прусіі, блізу правалілася на выбарах, дык павінна будзе ўступіць месца новай коаліцыі — цэнтра-правай — з гітляраўцамі на чале. У выніку перамогі—гітляраўцы трэбуюць сабе месца прэм'ера. Прусія як ведама, мае кіруючае значэньне ў палітычным жыцьці Нямеччыны, дык пэўне ж зьмена ўлады ў ёй адаб'ецца так ці інакш на складзе агульна-нямецкага цэнтральнага ўраду. Трэба думаць аднак-жа, што Гіндэнбург, маючы наўвазе міжнародныя інтэрэсы Нямеччыны, ня так лёгка згодзіцца дапусьціць Гітляра да ўлады ў цэнтры, маючы на гэта апору ў конституцыі. У кожным разе ўвага ўсяго сьвету зконцэнтравана цяпер на Нямеччыне, дзе пачнецца нейкі зрух, які можа нарабіць шмат гуку, калі не клапотаў ў Эўропе.**

---

**На 422 паслоў Прускага Сойму гітляраўцы здабылі 162, нацыяналісты—91, цэнтр—67, людоўцы — 7, соцыял - дэмакраты — 99, комуністы—57.**

**У Баварыі цэнтра-правая коаліцыя таксама забясьпечана, як і ў Вюртэмбэргу, Ангальце, Гамбургу і Сілезіі.**

### Польшча і „Прыдунайскі Блёк".

Ведамы францускі публіцыст Pertinax піша ў „Echo de Paris" аб тым, якое значэньне для Польшчы мае дапушчэньне ці недапушчэньне яе да ўчасьця ў гаспадарчым блёку „прыдунайскіх дзяржаў".

Прыкладам—у Лёндане на канфэрэнцыі 4 дзяржаў разважалі справу штучнага паніжэньня валютаў прыдунайскіх дзяржаў, каб павялічыць іх вываз і канкурэнцыю з іншымі. А гэта зьявілася-б цяжкім ударам для вывазу цэлага раду найважнейшых у гандлёвым балянсе Польшчы экспортных тавараў, асабліва — лясных матэрыялаў. Апроч таго, ад суседзіх з Блёкам дзяржаў (Польшчы і інш.) магутныя апякуны Блёку будуць трэбаваць далёка сягаючага перагляду гандлёвых трактатаў — на карысьць прыдунайскіх дзяржаў і коштам уласных інтарэсах гэтых астаўшыхся па-за блёкам яго суседзьяў...

### Францускія радыкалы аб польска-францускім саюзе.

У францускай прэсе ўсьцяж зьяўляюцца артыкулы правадыроў францускіх радыкалаў, якія заяўляюць, што „радыкальная партыя ня хоча аднаўленьня саюзу Францыі з Польшчай"...

Гэтыя заявы зрабілі вялікае ўражэньне ў Польшчы. Справа ў тым, што новыя выбары ў францускі парлямант могуць, як прадбачыць парыжскі карэспандэнт „Kur. Warsz." аддаць уладу ў рукі францускай лявіцы, сярод якой радыкалы й радыкал-соцыялісты маюць вялікую перавагу. Такім чынам заявы органаў франц. радыкальнай партыі маюць характар зусім рэальнай пагрозы францускапольскаму саюзу. Якое значэньне мае гэты саюз для Польшчы, хіба-ж само сабой зразумела.

### Пагроза узнаўленьня вайны пад Шанхаем.

У Токіо спадзяюцца пазрыву перагавораў з Кітаям — з прычыны „няўступлівасьці Кітаю". Кітайскі ўрад трэбуе, каб Японія точна ўказала, калі яе войскі пакінуць шанхайскі раён, але японскі ўрад усьцяж выкручываецца ад выразнага адказу, заяўляючы, што — „ніякіх уступак больш зрабіць ня можа". Таму — абедзьве староны зноў рыхтуюцца да бою. Кітайская артылерыя заняла ўзвышы, каб запабегчы дзеяньню японскага флёту.

### Японія і Францыя.

Француская прэса, як ведама, запярэчывала наагул весткам, быццам Францыя ня толькі спагадае, але й памагае Японіі проці Кітая. Але вось японскі мін. замежн. спраў Іошызава — у гутарцы з францускім журналістам выразіў вялікую удзячнасьць Францыі за „сымпатыі яе да Японіі".

Сам прэзыдэнт Францыі, казаў Іошызава сказаў асабіста яму, што Францыя, маючы пабліз Кітаю сваі валадзеньні, вельмі заінтэрэсаванай тым, каб на Далёкім Усходзе наагул панаваў парадак"... Парадак, ведама-ж можа наладзіць тамака толькі Японія. „Японія вельмі цэніць такую позыцыю Францыі, дый прыме усе меры, каб перагаворы, якія йдуць цяпер — у справе японска-францускага гандлёвага трактату, прывялі да поўнага пасьпеху".

### Нядошлая кандыдатура кронпрынца.

Як расказала адна з баварскіх манархічных газэт, гітлераўцы меліся выставіць кандыдатам усей „нацыянальнай опозыцыі" проці Гіндэнбурга „б. кронпрынца" (наступніка трону) Аўгуста-Вільгэльма, каб гэтак — „паказаць перад усім нямецкім народам, верным манархіі. яўную і адкрытую здраду былага „вернага слугі манарха" фэльдм. Гіндэнбурга". Але гэты плян праваліўся дзякуючы забароне з боку бацькі кронпрынца, б. кайзэра Вільгэльма II. Тады кронпрынц пастанавіў галасаваць за Гітлера.

### Ашчаднасьць на Г.П.У. за-граніцай.

Радавы ўрад ізноў рашуча зьменшыў выдаткі на „дэлегатаў" Г.П.У. („Чрезвычайкі") за-граніцай. У Нямеччыне пакінены толькі адзін „рэзыдэнт", у Бэрліне яго „этаты" зьменшаны напалову. Таксама — ў Варшаве, Празе, Вене і г. д.

Нічога не папішаш: крызіс...

### Конфлікт паміж Ірляндыяй і Англіяй.

Востры канфлікт паміж Ірляндыяй, якая хоча быць незалежнай дзяржавай, і Англіяй, якая трэбуе, каб яна засталася „домініяй" у складзе Вялікай Брытаніі і Брытанскай Імпэрыі, — завастраецца. Англійская нота да Ірляндыі заявіла, што Англія не прызнае за Ірляндыяй права аднастаронна ламаць падпісаны ёю трактат. Спор ідзе, як ведама, аб прысязе каралю ды аб оплаце адшкадаваньняў былым абшарнікам — англійцам (лендлёрдам) за выкупленыя ад іх на карысьць іх былых арандатароў зямельныя абшары. Ірляндыя ня хоча цярпець навет „цені залежнасьці ад Англіі", таму рашэньне аб скасаваньні прысягі — канчальнае і беспаваротнае. Што датычыць адшкадаваньняў, дык у гэтай справе можа быць яшчэ гутарка, дзеля якой прэм. дэ-Валера гатоў прыехаць у Лёндан.

Абурэньне ў Англіі проці Ірляндыі расьце ўсьцяж, дык можа давесьці да канфлікту больш паважнага.

### Роля Францыі ў павароце Югаславіі да парлямэнтарызму.

Усе больш высьвятляецца рашучая й шляхотная роля Францыі ў павароце Югаславіі да нормальнага палітычнага жыцьця. Францускі ўрад рашуча заявіў югаслаўскаму каралю, што Францыя ня дасьць яго ўраду ані воднага франка пазыкі, пакуль у краі будзе панаваць генэральская дыктатура, якая зруйнавала ня толькі палітычнае, але й экономічнае жыцьцё краю. Францускі ўрад указаў югаслаўскім дыктатарам, што няма для Югаславіі вялікшай небясьпекі, як тая сьмяротная варажда харватаў да сэрбаў, якую так страшэнна распалілі нанова шаленыя нацыянальныя рэпрэсіі ген. Жывковіча, па-военнаму пачаўшага выконываць думку караля Аляксандра аб „стварэньні аднаго народу „югаслаўскага" з трох галоўных народаў дзяржавы: сэрбаў, харватаў і словенцаў, раўнуючы ўсіх аднак-жа — на капыл сэрбскага... У дадатак у францускія фінансавыя кола заявілі, што толькі спыненьне нацыянальных гвалтаў дый паварот да шчырага ды чэснага парлямэнтарнага ладу могуць адчыніць для югаслаўскага ўраду скрыні ў іх банках...

### Чым ядуць работнікі ў СССР.

Што ў „Савецкім раі" няма чаго есьці, гэта ўсім ведама. Але што там і няма чым есьці, аб гэтым цікаўныя рэчы расказала „Савецкая трыбуна". Навет у работніцкіх, гэта значыць упрывілеяваных сталоўках а навет, як кажа газэта, у большасьці, іх няма чым есьці: няма лыжак, нажоў. Таму ядуць савецкія работнікі пераважна рукамі, а зупу — коркамі хлеба. У некаторых сталоўках ёсьць ўсё-ж адна лыжка на ўсіх чакаюць ды зьмухаюць на зупу. Зьдзіўлены карэспандэнт газэты даведаўся, што адміністрацыя сьведама спыніла выдачу гэтых прыладаў у сталоўках публіцы, бо работнікі раскрадаюць іх. Таму ў некаторых сталоўках уведзены такі парадак, што кожны работнік, уваходзячы ў сталоўку, пакідае ў швайцара свой пашпарт і тады атрымлівае прылады, а выходзячы, здае ўсё назад, атрымліваючы назад свой пашпарт.

---

## Перачытаушы газэту — перадай другому

# Гаспадарчы аддзел.

## Кармовая рэпа (турнэпс).

Ня трэба даводзіць, як вострым у нас зьяўляецца кармовае пытаньне, асабліва ў дробных гаспадарках. А як у дробрай гаспадарцы колькасьць вялікае жывёлы абмяжоўваецца парою штук, дык нешчасьлівыя выпадкі або й недахват корму зьяўляюцца проста катастрафічнымі для гаспадара, бо зьмяншэньне жывёлы на адну штуку азначае зьмяншэньне яе напалавіну.

Вось-жа з гэтых прычын, трэба падбаць, каб корму заўсёды хапала. Карміць жывёлу трэба добра, бо ад гэтага гаспадар нікокі ня будзе ў убытку. Лішкі-ж корму, калі-б такія аказаліся, маглі-б зужыткавацца павялічэньнем дробнае с.-гаспадарчае жывёлы, што ня ёсьць справай так труднай.

Адным з кармовых карэньплодаў, які павінен заняць увагу нашага гаспадара,—гэта *кармовая рэпа* ці *турнэпс*. Гэтая расьліна яшчэ мала вядомая нашаму сялянству, хаця умовы глебавыя й кліматычныя у нас для гэтае расьліны зусім адпавядаючыя. А гэта дзеля таго, што найбольшае гаспадарчае значэньне турнэпс адыгрывае ў краінах паўночных з глебамі лёгкімі, як супескі, суглінкі.

Найчасьцей сеецца турнэпс ў папары, угноеным яшчэ з восені. Раньнія-ж сарты турнэпсу могуць высяваацца, як расьліны пажніўныя, —часьцей пасьля кармовых мешанін і па жыце. Рэкамэндуецца раньняя сяўба турнэпсу, а гэта з тае прычыны, што яму вялікія шкоды робіць земляная блыха. Расьліна гэтая не павінна сеяцца часта на адным месцы (не раней, як праз 8 гадоў). Глеба пад турнэпс павінна быць глыбака выробленая.

Сецца турнэпс у радкі, але можа быць сеяны і ў раскідку. Пры радкавай сяўбе радкі павінны знаходзіцца адзін ад аднаго на адлежнасьці 40-50 цэнтымэтраў, а расьлінкі ў радку трэба пакінуць на 20-30 цэнтымэтраў. Між радкамі, падчас росту, як і пры кожнай асыпнай расьліне, праводзіцца матыкаваньне ці прааўжджаецца конным або ручным палольнікам. Насеньня пры радковай сяўбе выходзіць вельмі мала—ўсяго каля 2 з паловай кіл. на гэктар. Зарабляць насеньне трэба вельмі плытка: на лягчэйшых глебах—на глыбіню 2 цэнт., а на цяжэйшых — усяго на паўтара цэнтымэтра. Пры сяўбе у раскідку — пасьля ўзыходу —поле спачатку барануецца з мэтаю зьнішчэньня пустазельля, а пасьля пасеў прарэджваецца.

Выбіраць турнэпс вельмі лёгка, бо амаль што ўсе сарты яго вырастаюць на паверхні зямлі. Прымарозкаў турнэпс менш баіцца, чым кармовыя буракі, але затое зімою горш перахоўваецца чым апошнія, а дзеля таго трэба яго як найхутчэй скарміць яшчэ ўвосені.

Найлепшымі сартамі турнэпсу для нашых умоваў можна лічыць турнэпс Бартфэльдзкі і Остэрзундомскі.

**З. К.**

## Колькі ў каней.

Пад назовам колькаў у коней трэба разумець некалькі хваробаў, зьяўленьне якіх вызначаецца раптоўнымі болямі ў жалудку і кішкох. Прычынаў, дзякуючы якім наступаюць колькі, бывае шмат. Унады выклікае іх прастуда, калі даецца зьмерзлы корм. Таксама можа выклікаць гэтыя праявы і сапсуты корм. Настаюць колькі часта з прычыны глытавай яды прагаладаўшыся вельмі жывёлы. Колькі часта зьяўляюцца ад стрыманьня траўленьня, што лёгка можа здарыцца, калі бярэцца жывёла ў цяжкую работу зараз-жа пасьля яды. Маладая канюшына, вельмі дробна-парэзаная сечка таксама могуць быць прычынамі колькаў.

Пры зьяўленьні хваробы коні непакояцца, топчуць нагамі, б'юць заднімі нагамі аб жывот і часта на яго аглядаюцца, паперамення то кладуцца, то усхватваюцца. Хвароба можа трываць некалькі гадзін, а часам і да двух дзён. Калі хвароба ня пройдзець, то можа зробіцца параліж кішак і заражэньне крыві, ад чаго жывёла гіне ў страшэнных болях.

Дзеля зьмяншэньня боляў рэкомэндуецца даваць адвар белены або рамашкі ці бузіны. Як сродкі слабіцельныя, даюцца глаўбэравая соль, экзэлін, алеі, сабур, калёмэль. Апрача гэтага рэкамэндуецца ганяць коней і расьціраць цела саломай, асабліва жывот з правага боку. Карысна даваць на жывот цёплыя кампрэсы і ўціраць скіпідар.

**З. К.**

## Абмалоджваньне пладовых дрэваў.

У адным з папярэдніх нумароў газэты „Бел. Звон" у арт. „Абрэзка пладовых дрэваў" мы з прычыны нястачы мейсца нічога не сказалі аб абмалоджваньні старых дрэваў. Гэты недахоп пастараемся дапоўніць на гэтым мейсцы.

Абмалоджваюць дрэва звычайна старыя, якія дажылі 50 гадоў і кепска родзяць. Абмалоджваньне палягае на тым, што абразаюцца ўсе асноўныя галіны на $^1/_3$—$^3/_4$ іх даўжыні. Адна галіна звычайна астаўляецца і зрэзваецца на будучы год. На другі год наўкола зрэзу зьвівіцца шмат новых галінак, якія яшчэ праз год выкідаюцца, пакідаючы па аднэй найлепшай галінцы. Гэткім чынам, пры абмалоджваньні мы ў працягу 3 гадоў пазбаўлены ўраджаю, але затое гэта добра акупіцца ў будучыя годы.

**С. Т.**

# ХРОНІКА.

— **І „лявоніху" прысабечылі...** „Słowo" ў нумары з 17 красавіка адзначае паварот на вёсцы прызабытага ўжо беларускага нацыянальнага танцу „лявоніхі". Вельмі гэта прыемна. Але характэрна, што „Słowo" называе „лявоніху" не беларускім танцам, а— танцам „нашых мужыкоў".

Пытаньне, як разумеюць паны абшарнікі гэтае выражэньне — „нашых мужыкоў"? Ці—як іх былых „падданых", ці —як „польскіх", падобна да таго, як колькі гадоў назад на выстаўцы дэкарацыйнага мастацтва ў Парыжу беларускія тканіны з Лідчыны фігуравалі, як вырабы „ludu polskiego" і, як такія, былі адзначаны залатым мадалем?!..

— **„Голас Праваслаўнага Беларуса".** Выйшаў № 3 (студзень—люты — сакавік) гэтае часопісі групы праваслаўных беларусаў, якая паставіла сабе задачай дабівацца зьбеларушчаньня царквы шляхам унутранага змаганьня ў гэтай царкве. Зьмест нумару, абыймаючага 30 страніц, наступны: 1. „Изволися Духу Святому... но—не нам!" 2. Саборнасьць і парлямэнтарызм. 3. Адказ „Воскрэсному Чтенію". 4. „Герой церковнаго безвременья" (Філіп Марозаў). 5. Агляд прэсы. 6. Неабходныя высьвятленьні. 7. Хроніка.—Дастаць можна ў Беларускай Кнігарні Ул. Манкевіча, Вострабрамская 1, у Вільні.

— **Агульны Гадавы Сход Беларускага Добрадзейнага Т-ва.** 15. V. г. г. ў 17 гадз. у памяшчэньні Віленск. Беларуск. Гімназіі адбудзецца Агульны Гадавы Сход Беларускага Добрадзейнага Т-ва з наступным парадкам дня: 1) Справаздача Ураду і Рэвізыйнай Камісіі за мінулы 1931 г. 2) Зацьверджаньні буджэту на 1932 г. 3) Выбары новага Ураду і Рэвізыйнай Камісіі. 4) Бягучыя справы.

У выпадку адсутнасьці кворуму у азначаны час, а 18-ай гадзіне адбудзецца паўторчы сход, правадзейны пры ўсялякім ліку сяброў.

# Бібліяграфія.

*Józef Gołąbek.* **Wincenty Dunin-Marcinkiewicz,** *poeta polsko-białoruski. Wilno, 1932. Wyd. Towarzystwa Pomocy Naukowej im. E. i E. Wróblewskich.*

(Даканчэньне).

П. Голомбэк нейк мімаходам толькі гаворыць аб адносінах Д. М. да паўстаньня 1863 году. А тым часам высьненьне гэтых адносінаў — асабліва характару іх — мела-б вялікае значэньне дзеля паўнейшага ўяўленьня сабе духовага абліччa поэты, у тым ліку — соцыяльных яго паглядаў. Мы ня ведаем, да якое групы сярод паўстанцаў прыхіляўся Д. М.: да „белых", ці да „чырвоных"; а адказ на гэтае пытаньне мог-бы шмат дапамагчы і да аканчальнага вырашэньня пытаньня, ці верш „Вяска, голад перапала" запраўды мог напісаць Д.-М., як кажа Гарэцкі ў сваей „Гісторыі бел. літэратуры", ці — згодна з думкай п. Голомбка — верш гэты ня выйшаў з-пад пяра Д.-М. — Другім нявысьненым у монографіі пытаньнем ёсьць пытаньне аб тым, што беспасярэдна пабудзіла Д.-М. да напісаньня яго першага твору — камэдыі „Сялянка"? П. Голомбэк думае (стр. 61), што магчымасьць паставіць камэдыю на сцэне „сталася поводам да напісаньня п'есы", а — посьпех яе сярод публікі мог заахвоціць Д.-М. да далейшае беларускае творчасьці. Гэта думка мала абаснованая: „Сялянка" надрукована ў 1846 г., а напісана — прымаючы пад увагу дату цэнзуры — не раней 1844 г., — першая-ж пастаноўка „Сялянкі" на сцэне прыпадае на 1852, значыць — праз 8—9 гадоў пасьля напісаньня. Дык дагадка п. Голомбка не разьвязвае загадкі, і дзеля далейшых досьледаў аб Д.-М. грунт яшчэ ёсьць: сказана аб ім — ня ўсё, судзячы хоць-бы паводле гэтых двух прыкладаў.

Сустракаем і крыху дробных нятачнасьцяў у монографіі, — праўда, датыкаючых не беспасярэдна Д.-М. і вынікаючых праўдападобна з недастататачнага знаёмства п. Голомбка з беларускай мовай. Гэтак, заяву Гарэцкага ў ягонай „Гіст. бел. літ.": „Забаўна тое, што ёсьць старыя сьпіскі, на якіх пад поэмай „Тарас на Парнасе" стаіць імя Адама Міцкевіча", — у якой ужо самым словам „забаўна" Гарэцкі кваліфікуе гэны подпіс, як кур'ёз, — п. Голомбэк зразумеў, як зусім паважнае „прыпісываньне" поэмы Міцкевічу, што і назваў — з крыўдай для Гарэцкага — „плёткай". Ня точная і інфармацыя п. Голомбка аб тым, быццам беларускія творы Шпілеўскага „нідзе не былі ў тыя часы друкаваны", бо ж у 1857 годзе была надрукавана ў Пецярбурзе кніжачка Шпілеўскага: Дожинки. Бѣлорускій народный обычай. Сценическое представленіе въ двухъ дѣйствіяхъ, съ хорами, пѣснями, хароводами и плясками бѣлорусскими. Соч. П. М. Шпилевскаго. Санктпетербургъ. 1857 г. (Аб гэтай кніжачцы аўтару гэтых радкоў давялося пісаць у 1924 г. ў газэце „Сын Беларуса" № 36 у стацьці „Літэратурны плягіят"). Гэты твор Шпілеўскага запраўды прадстаўляе плягіят на „Сялянку" Д.-М., і тым цікавей было адзначыць яго ў монографіі: ён паказвае, што пад літэратурным уплывам Д.-М. былі ня толькі прадстаўнікі спольшчанае інтэлігенцыі, але і абмаскоўленае.

Не затрымліваючыся на іншых драбніцах, вымагаючых корэктуры, паўторым яшчэ раз, што кніжку п. Голомбка трэба шчыра прывітаць. Яна павінна заахвоціць нашых маладых дасьледчыкаў да такое-ж грунтоўнае, шырокае апрацоўкі монографіяў нашых поэтаў і адраджэнскіх дзеячоў, аб якіх грамадзянства—асабліва маладое пакаленьне — ведае надта мала.

Выдаўцом монографіі аб Дунін-Марцінкевічу належыцца шчырая падзяка. З боку выдавецкае тэхнікі—кніжка беззаганная.

Вільня, 29.III.1932 г. **А. Н.**



Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22